Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 25 лютага 1933 г.

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

№ 5.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

## Нясеце кніжку вёсцы!

Нядаўна мы ў аднэй газэце знайшлі гэткую цікаўную вестку аб культурнай працы ў Італіі:

У Рыме Акадэмія Навук наладзіла „рухомую кнігарню“, якая мае неўгабаве распачаць аб'езд самых глухіх кутоў італьянскае правінцыі. Кнігарня з'арганізована па апошняму слову тэхнікі: яна месьціцца на 7 грузавых самаходах ды йшчэ мае самаходы для дырэкцыі і бюро прапаганды, а таксама для друкарні, дзе маюць друкавацца афішы і адозвы. Рухомая кнігарня да таго-ж мае радыё-апараты, радыё-тэлефон. Кнігарня мае спэцыяльнай мэтай абслугоўваць найбольш далёкае ад асяродкаў культуры і беднае насяленьне краю, дзеля таго цэны на кніжкі ў ёй спэцыяльна нізкія. Кнігарня мае цэлы рад розных камплектаў кніжак для бібліатэк, якія аб'ездны інструктар-спэцыяліст закладывае на месцы і перадае мясцоваму грамадзянству—таксама на вельмі прыступных варанках.

Так у Італіі даходзіць кніжка да сялянскае масы, якая, праўду кажучы, стаіць бадай ці не на такім самым культурным роўні, як і большасьць беларускага сялянства. І дзеля гэтага акцыя, распачатая італьянскай Акадэміяй Навук, можа паслужыць прыкладам і для нас.

Ведама, мы і думаць не можам аб такой пастаноўцы акцыі шырэньня кнігі, на якую можа пазволіць сабе народ у сваей уласнай дзяржаве. А ўсё-ж нешта зрабіць у гэтым кірунку маглі-б і мы — пры нашай добрай ахвоце і пры лёяльным становішчы адміністрацыйных уладаў.

Кніжная акцыя ў Італіі прыпомніла нам той спосаб шырэньня ў народзе кніжкі—спосаб лёгкі й даступны сяньня навет нам, які мы бачылі некалі ў даваеннай Расеі. Тамака існавала цэлая маса вандроўных гандляроў—кнігаНошаў (т.-зв. офені), якія цягнулі на сваей сьпіне хатомку з кніжкамі дзеля прадажы па вёсках і мястэчках. Кнігаюшы хадзілі ад хаты да хаты, сулячы свой тавар —звычайна вельмі танны, па пару капеек кніжка. Затрымліваліся ў мястэчках на кірмашох ды там проста на зямлі раскладалі свае кніжкі. І—відаць—таргавалі ня дрэнна, бо-ж жылі з таго, што на гэтых капеечных выданьнях зараблялі. Тавар выдавецкія фірмы давалі ім напавер—з значнай уступкай з номінальнае цаны. І ніякіх асаблівых коштаў на арганізацыю гэнае акцыі ня было патрэба: увесь выдатак—зьбіць скрыначку для кніжак, у якой тавар быў-бы забясьпечаны ад дажджу і вільгаці.

Такую акцыю павінны цяпер распачаць мы, беларусы. Пры сучасным крызісе на вёсцы селянін беларускі ня мае магчымасьці прыйсьці да места па кніжку. Няхай жа кніжка прыйдзе да яго!

Ведама, беларускія выдавецтвы — бяз розьніцы палітычнага кірунку—павінны зразумець усю вагу прапанаванае намі акцыі і падтрымаць яе, даючы кнігаНошам тавар напавер. Усе выдавецтвы і ўсе культурна-асьветныя арганізацыі павінны заняцца вышуківаньнем адпаведных людзей — кандыдатаў на кнігаНошаў, проці якіх ня было-б ніякіх маральных закідаў з боку грамадзянства дый палітычных закідаў у „неблаганадзёжнасьці“ з боку адміністрацыі. І калі акцыя разьвернецца шырака, яна ў нашых варунках выпаўніць сваё культурна-асьветнае заданьне ня горш, чым каштоўная „рухомая кнігарня“ ў Італіі.

## Як перасылаць грошы за газэту.

Гэтым паведамляем нашых падпісчыкаў, што яны могуць перасылаць належныя нам грошы за газэту гэтакім спосабам: 1) купіць на пошце блянк для пераказу на рахунак П. К. О., які каштуе толькі 5 гр., 2) запоўніць яго, як належа, упісаўшы адрас беларускае кнігарні Ул. Манкевіча (Księgarnia Białoruska Wł. Mankiewicza, Wilno, Ostrobramska 1) і нумар конта 61991, 3) на адвароце часткі блянку „dla adresata“ напісаць: „За газэту“— і 4) бясплатна здаць разам з блянкам пасылавую суму на пошце.

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб прыгатаўленьні кармоў для жывёлы.

(Даканчэньне).

Гарох і розныя бабы, калі іх даецца шмат, выклікаюць часта ў жывёлы ўздуцьце жывата і запоры. Лепей травяцца гэтага роду кармы ў стане размочаным. Сала сьвіней, кормленых зярнятамі з бабовых расьлінаў, робіцца залішне тугое. Невялікі-ж дадатак у корм бабовых карысны, бо зёрны бабовых расьлінаў маюць у сабе многа бялку. Зярняты вікі зьяўляюцца вельмі добрым кормам дзеля дойнае жывёлы, але не для сьвіней.

Зярняты лубіну такімі, як яны ёсьць, могуць быць ужыты на корм толькі для авец і то ў абмежанай колькасьці. Лубін мае ў сабе, галоўным чынам у зярняці, атрутны складнік ікроген, які выклікае ў авец хваробу-люпінозу (ліхарадка, брак апэтыту, сільная зьмена пячоначнае ткані, разьвіцьцё жоўці—жаўтуха). Атрутны складнік ікроген ня ёсьць складнікам сталым, затое ёсьць другія сталыя алькалёіды, як прыкладам люпулін. Зёрны лубіну можна пазбавіць шкадлівых алькалёідаў мачэньнем у вадзе; пры гэтым вымачаны лубін траціць горкі смак.

Найлепшы спосаб пазбыцца ў лубіне атрутных складнікоў (адгарчэньне) наступны: зярняты лубіну спачатку варацца ў працягу аднае гадзіны, а пасьля мочацца ў халоднай вадзе, час-ад-часу зьмяняючы яе, аж да поўнага зьніку гаркаты. Адгорчаны лубін трэба зараз-жа скарміць, бо хутка плясьнее. Адгорчаны лубін найлепей даваць жывёле з іншымі канцэнтраванымі кармамі. Для коней можна яго даваць ня болей 2 кілёграмаў на дзень, для рагатае жывёлы каля 3 кілёграмаў, для сьвіней 1 кілёграм на 100 кг. вагі і авечкам каля 1/2 кг. на штуку. Да лубіну жывёлу трэба паступова прывзвычайваць. Дзеля таго, што зёрны лубіну маюць у сабе шмат бялку, а сам ён добра расьце на пескавых глебах, дык ёсьць вырахаваньне на бедных пяшчаных глебах сеяць яго ня толькі на зялёнае ўгнаеньне, але і дзеля зярнят.

На корм жывёле можна скарыстаць так сама жалуды і каштаны, пераважна для сьвіней і вялікае рагатае жывёлы; найлепей даваць іх варанымі.

Там, дзе танна можна набыць вотрубы або клінцы (макуха), імі можна цалком заступіць зернявы корм, асабліва для рагатае жывёлы і сьвіней.

Вотрубы, калі яны несапсутыя і не заячычшчаны рознымі дамешкамі, зьяўляюцца вельмі добрым кормам, бо маюць у сабе болей бялку (працантова), чым самыя зярняты, з якіх яны паходзяць, а цана іх памерна бывае нявысокая. Найпрасьцейшы спосаб распазнаваньня вотрубаў наступны: бяруцца ў жменю вотрубы і сыплюцца ў шклянку з вадою. Калі вотрубы добрыя, то яны адразу падаюць на дно шклянкі і не даюць шмат муці. Найлепей вотрубы даваць рагатай жывёле ў стане сухім.

Клінцы (макуха, жмыхі) паступаюць у прадажу ў выглядзе плітак, часта вельмі цьвёрдых. Для драбленьня макухі ёсьць у прадажы спэцыяльны млынок. Калі-ж такога млынка няма, то можна драбіць макуху наступным спосабам: плітка макухі апускаецца на якісьці час у гарачую ваду і, калі патрэскаецца, разьбіваецца малатком. Пры апошнім спосабе драбленьня трэба зьвярнуць ува-

---

Міхась Машара.

## Падарожа.

*Прысьвячаю Пётры Сергіевічу.*

(К а н е ц).

IX.

Міхась, Міхась, — ты знову збочыў,
І мне з табой — адна бяда!
Заледзь ад двору там адскочыў,
Тут прычапіўся да крыжа...

Такі разбойны ад маленьня:
„Задзёрай" бацька ахрысьціў.
І бунт ня вылячыў цярпеньнем, —
Вастрог спакою не навучыў

І сэнс сьцюдзёны разважаньня
Ня нам, ня нам з табой пазнаць!
І пэўна ў буньце і каханьні
Нам лёс прызначыў дагараць.

X.

Далей, далей!.. вось зноў вёска.
Звычайна — вёска, якіх шмат.
Расселісь хаты пры дарожцы,
І дзе-ня-дзе маленькі сад.

Над вулкай вербы і бярозы,
Вішняк чырвоны над платом.
І вецер, гойдаючы косы,
Плюецца золатам кругом.

Зьвініць машына дзесь у гумне,
Снуе там-сям за працай люд.
Задраўшы дзюб, стаіць ў задум'і
Асьвер, загнаны кімсь у кут.

Дзіцячы рой да хат — ад школы —
Гудзіць вясёла грамадой,
І звоняць словы роднай мовы —
Ня тэй, што вучаць іх, чужой...

І сэрцу робіцца прыемна, —
...А ўсё-ж разбудзіцца яна!...
І веру шчыра і бязьмерна
ў жывую моц тваю, Зямля!

XI.

Ужо сонца надта нізка...
Мая дарога ў лес ідзе.
За гэтым лесам вельмі блізка
Жыве Пятрусь (казалі мне).

гу, каб у раздробленай макусе ня было цьвякоў, ці кускоў дроту і інш. Калі раздробляецца макуха ў спэцыяльным млынку, то жалезных прадметаў няма чаго баяцца, бо іх затрымае ў млынку магніт. Раздробленую макуху даюць жывёле адну або зьмешаную з сечкаю. Найболей надаецца макуха для дойнае жывёлы, а для коней яна мала прыгодная.

Найлепшыя клінцы ільняныя, а за імі зараз-жа ідуць канапляныя і сонешнікавыя. Сапсаваныя клінцы ёсьць горкія і ў большай колькасьці шкодныя для здароўя жывёлы. Для зьніштажэньня гаркаты сапсаваныя клінцы вараць. Макавыя клінцы досыць рэдка спатыкаюцца ў прадажы, але яны добрыя — асабліва для тучненьня жывёлы.

Што ж датычыць кармоў зьвярынага паходжаньня, то ў нашых умовах іх ніхто ня купляе, а дзеля таго мы аб іх і гаварыць ня будзем. Адно толькі тут яшчэ адзначым, што зернавыя кармы, калі яны надпсутыя, перад тым, як даваць жывёле, трэба добра падпражыць. А калі ёсьць страх, што і ў падпражаным стане такі корм будзе шкодны, дык тагды трэба яго яшчэ зварыць і даць у пойла жывёле. С. А.

## Цікауныя і карысныя рэчы.

**Дзе быў рай на зямлі?** Шырака ведамы расейскі вучоны—географ, этнограф і антрополёг праф. Анучын, асабліва цікавы і цэнны для беларусаў тым, што ад 1922 г. блізу штогодна чытаў у маскоўскім унівэрсытэце паміж іншым свой дасканалы „курс белорусоведенія", надрукаваў ня так даўно ў нямецкім антрополёгічным*) часопісу вельмі цікаўную стацьцю, у якой шукае вырашэньня аднэй з найбольш цікавячых навуковую думку загадак: аб першапачатнай бацькаўшчыне народаў так-званага „старога сьвету".

Можа лічыцца бясспрэчным, што „калыскай чалавецтва" старога, а мо' навет і ўсяго сьвету, была Азія. Але дзе гэная „калыска" мясьцілася, аб гэтым ідуць усьцяж спрэчкі. Вось-жа праф. Анучын сьцьвярджае, што ані антрополёгія, ані моваведа ня могуць даць поўнага адказу на гэтае пытаньне. Таму шукае ён адказу ў тым цікаўным і багатым матэр'яле, які дае першапачатнае рэлігійна-поэтыцкае творства розных народаў Азіі. І вось, у-ва ўсіх народаў старога сьвету існуе найстарэйшая легенда аб зямным раю. Анучын кажа, што гэты „рай", гэта — ня што іншае, як асабліва салодка захаваны ў памяці далёкіх нашых продкаў багаты і шчасьлівы край іх супольнае першапачатнае радзімы. З гэтае першае бацькаўшчыны адзін за адным выходзілі пазьнейшыя пакаленьні, разыходзячыся ў розныя горшыя прыродай краіны, ва ўсе бакі сьвету. Ясна, што кожны народ, які склаўся з гэтых чарговых выхаджэнцаў з пачатнае супольнае бацькаўшчыны — „зямнога раю", тварыў аб ім прасякненыя сумам, жалем і любоўю легенды.

Так і было запраўды. І вось, разглядаючы гэтыя легенды розных народаў, Анучын знаходзіць, што розныя народы паказваюць у іх выразна на тую шчасьлівую старану, дзе мясьцілася іх першая радзіма. Народы паўночнае і Заходняе Сібіры „агляда-

*) Антрополёгія — навука аб агульнай фізычнай прыродзе і разьвіцьці чалавека, разгляданага не як духоўна-творчая істота, але як істота зоолёгічнага парадку—у сувязі з яе прыродным асяродзьдзем.

Зьнямогся я...
Баляць мне ногі,
ў грудзёх настрой такі ціхі.
Кавалачак малы дарогі
Глядзіць няскончана-даўгім.

Уходжу ў лес...
Як тут прыгожа!
Якая ціш!...
Які спакой!..
Бы лес, сумуючы, варожыць
Над адцьвітаючай красой.
Здаецца, кліча ціш нямая
Жаўклявым шолахам лісьця:
— Каго нялюдзкі боль зьядае,
— Калі ты выбіўся з жыцьця,
— Калі — зьнямог,
— Хадзі да нас:
— Прыляж
— На мох
— Тут бяз трывог,
— Пакрыўшысь жоўценькім лісьцём.
— ...Засьнём...

— Засьнём...—Нам будуць сьніцца сны
— Засьнём—да новае вясны,
— Засьнём—каб сіл набраць,
— Засьнём—каб зноў паўстаць
— ў красе жыцьця,
— З агнём бурлівым пачуцьця.
— Няхай
— Нас збудзіць сьветлы май
— Шумець, змагацца і кахаць!

— Засьнём...
— Ты змучаны жыцьцём.
— Сюды, сюды,
— Хоць малады,
— Хадзі да нас:
— Прыляж
— На мох,
— Засланы жоўценькім лісьцём.
— Тут бяз трывог
— Засьнём...
— Засьнём, засьнём, засьнём!...
— Аж да вясны.

XII.

О лес!...
Дарма ты вабіш адпачынкам:
Твая смуга і жоўты шум

юцца", так сказаць, усьцяж за пакіненай у прадвечныя часы бацькаўшчынай — на паўдзён. Усходнясібірокія народы — якуты і бураты — глядзяць у сваіх легендах аб раю на паўднёвы захад. Японцы, кітайцы, карэйцы, манголы паказываюць на захад. Жыхары Індакітаю шукаюць сьлядоў даўнейшага шляху да „раю" на паўночным захадзе; індусы— на поўначы. Сэміты (жыды, арабы і інш.) глядзяць і моляцца ў бок даўнейшага раю — на ўсход. На ўсход глядзяць таксама каменныя багі дагістарычнае Украіны.

Калі, такім чынам, правесьці ад усіх гэтых народных сялібы былых і нашых часоў лініі ў напрамках, якія паказываюць іх рэлігійныя легенды, дык усе гэтыя лініі, кажа Авучын, спаткаліся-б і скрыжаваліся прыблізна ў цяперашнім расейскім Туркестане, яшчэ бліжэй —у так званай Самірэчанскай вобласьці, запраўды-ж — вельмі багатым прыродай краю. Тутака, значыць, і трэба шукаць „зямнога раю", ці першапачатнае супольнае бацькаўшчыны народаў старога сьвету.

Як бачым, вынікі гэтага досьледу Авучына неяк, але-ж не вельмі, разыходзяцца з тым, што кажа аб мейсцы раю жыдоўская рэлігійная легенда—ў Бібліі.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Падвойны юбілей.** Сёлета мінула 15 гадоў ад закладзінаў Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні, а таксама мінае 300 гадоў ад сьмерці слаўнага Канцлера Вялікага Князьства Літоўскага Льва Сапегі, гарачага беларускага патрыёта і абаронцы самастойнасьці беларуска-літоўскага гаспадарства. У сувязі з гэтым падвойным юбілеем адбудзецца Урачыстае Паседжаньне сяброў Беларускага Навуковага Т-ва, на якім будзе прачытаны даклад аб дзеяльнасьці Т-ва за 15 гадоў і лекцыя гр. М. Шкелёнка аб жыцьці і працы Льва Сапегі. Урачыстае Паседжаньне вызначана на 12 гадз. дня 5 сакавіка (ў нядзелю) у салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9). Асобы, не належачыя да ліку сяброў Т-ва, могуць атрымаць запросіны ў старшыні Ураду.

**Агульны Гадавы Сход** сяброў Беларускага Навукова Т-ва ў Вільні адбудзецца 5 сакавіка ў 10 гадз. раніцы ў салі Беларускае Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ю. Словацкага (Вострабрамская 9). На парадку дня: 1) справаздача Ураду і Рэвізыйнае Камісіі за мінулы год; 2) плян далейшае працы; 3) перавыбары двух сяброў Ураду, выбыўшых па жэрабю; 4) вольныя прапазыкі.

**Да справы звальненьня доктара-беларуса.** Як ужо паведамлялі, Куратарыум звольніў з пасады школьнага лекара Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Словацкага ў Вільні, д-ра Грабінскага, які працаваў на гэтым становішчы з вялікай карысьцяй для моладзі каля 5 гадоў. З гэтае прычыны Прэзыдыум Бацькоўскага К-ту зьвярнуўся з мэморыялам да п. Куратара, просячы вярнуць д-ра Грабінскага на ягоную пасаду і рашуча пратэстуючы проці праектаваўшагася казначэньня на

---

На сумам сплеценых галінках
Не закалышуць маіх дум!

Наш час—нэрвовага імпэту,
Наш час—разгону і трывог.
На ім да іншай едзем мэты,
Не на спачынак—на твой мох...

Няхай баляць зьнямоханыя ногі,
А я ня лягу адпачыць,
Пакуль ня скончана дарога
І дух бунтуе і гарыць!

Радзее лес...
І жоўтай пазалотай
Заход аблііў паблеклыя кусты.
Павіснуў шапкай над балотам
Туман сінявы і густы.

Радзее лес...
Ужо бераг недалёка.
У прасьвет румяніцца зара.
А неба цёмна і глыбока,
І сумна ціхая зямля.

XIII.

А вось нарэшце і Стаўрова!
Паміж узгоркаў і палёў,
Над плёсам возера бальшога,
Кругом ізноў абруч лясоў.

Заходзіць сонца над вадою...
О, як спакойна гладзь вады!
Заліта золатам і кроўю
Усё люстэрка гэнь — туды!

Туды да Богіна, дзе вежы
Касьцёла тонуць у заход.
Бяз ветру ціха на ўзьбярэжжы
Аб чымсь-ці шэпчыцца чарот.

Уходжу ў вёску...
Гразь, як звыкла,
І хаты шэрыя кругом
(Мая зьнямога неяк зьнікла:
Вось, вось спаткаюсь з Пятрусём!)

І, дзядзьку першага спаткаўшы,
Пытаю: дзе жыве Пятрусь?
За ўхом звычаем паскрабаўшы:
— Які?... Той з Вільні?... Беларус?...

— Ды ён за вёскай... пры дарозе, —
— Вось там пад лесам хутарок!
Я дзядзьцы дзякую прыгожа
І завяртаю у той бок.

гэтае становішча вучыцеля гімнастыкі д-ра Корты, паляка, вельмі далёкага ад мэдыцыны. У адказ на гэта п. Куратар паведаміў Старшыню Бацькоўскага К-ту, што звальненьне д-ра Грабінскага адбылася на тэй падставе, што міністэрства ня вызначыла крэдытаў на аплату працы асобнага школьнага лекара для Беларускае Філіі, і апека над здароўем вучняў Філіі даручана школьнаму лекару Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ю. Славацкага. З гэтае прычыны Куратарыум да канца гэтага школьнага году зьмяніць сваей пастановы ня мае магчымасьці.

**Забава для наймеңшых.** У нядзелю, 19-га лютага, у салі Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Славацкага ў Вільні адбылася забава для вучняў і вучаніц наймалодшых клясаў. Дзеці вельмі добра самі-ж выступалі на эстрадзе, дэклямуючы вершы і іграючы. Пасьля адбыліся ў салі агульныя гульні, прычым гулялі ведамыя народныя беларускія гульні. Здаваленьне „наймеңшых" было вялізарнае.

## На правінцыі.

**Полёнізацыя праз Праваслаўную царкву.** Украінская прэса зварачае ўвагу на тое, што на Палесьсі, Валыні, Падляшшы і ў Холмшчыне пачалася нанова адкрытая акцыя полёнізацыі мясцовага беларускага і украінскага насяленьня праз праваслаўнае духавенства ў школе. Палескі ваявода Костэк-Бернацкі ў адказ на скаргі палескага япіскапа Аляксандра адкрыта заявіў, што ён, праўда, хацеў-бы, каб закон Божы ў школах праваслаўным дзецям выкладаўся ў мове „тутэйшай", але дзеля таго, што мова гэтая не зрабілася яшчэ мовай літэратурнай, дык мова закону Божага для праваслаўных дзяцей можа быць толькі польская.

Як ведама, думкі начальства добрыя ўрадоўцы павінны навет згадываць. Дык берасьцейскі школьны інспэктар зараз-жа выдаў загад, каб у-ва ўсіх школах яго павету праваслаўны закон Божы выкладаўся папольску, калі сьвяшчэньнік ня можа выкладаць... па царкоўна-славянску, ці на мове... стара-баўгарскай!...

**Хоць свой, ды вораг.** З мяст. Лужкоў да нас пішуць, што тамтэйшыя беларусы пачалі варушыцца, каб наладзіць сваю беларускую культурную работу. Ладзіцца хор, думаюць аб пастаноўцы спэктаклю. Непадабаецца гэта, аднак-жа, некаторым 'тутэйшым панком і падпанкам, а найгорш тое, што і спасярод беларусаў сустракаюцца ворагі культурнае працы. Гэтак тутэйшы солтыс (ён-жа і бурмістр), Ігнат Андзілеўка, хоць сам беларус, але стараецца на сваім „высокім становішчы" паказаць, што з беларусамі нічога супольнага ня мае, ды падлабуніваецца да нашых ворагаў, палохаючы больш актыўных беларусаў і за зусім легальную, дазволеную законам і ўладамі працу пагражае кайданамі, Лукішкамі і г. д.

Ганьба яму!

**Хто вінаваты?** (З м. Смаргоні). 22 студзеня с. г. у нас выбухнуў уначы пажар. У загарэўшайся хаце спалілася старая жанчына 60 гадоў, усё дабро, 12 курэй і г. д. Іншым жыхарам удалося выратавацца з агню у аднэй бялізьне. Нельга сказаць, каб нашая „страж пожарна" не пасьпяшыла на ратунак,—ды на-жаль гэтулькі было з яе карысьці, як нябожчыку ад кадзідла. Бо-ж аказалася, што пажарніцкія бочкі з вадой пазамярзалі, і ня было чым тушыць хату.

XIV.

Іду... вось хутар той пад лесам, —
Відаць увесь, як на руцэ.
Асьвер з цяжкім-цяжкім пэдвесам
Здалёк ківае дзюбай мне.

Вячэру вараць; там за хатай
Пад лесам вогнішча гарыць,
І дым пачвараю скрылатай
Стаўбом падняўся і вісіць.

Каля вагня—Пятрусь і матка.
О, я пазнаў яго, пазнаў!
І ён пазнаў... пазнаў і шапкай
На прывітаньне замахаў.

І за вароты рады, рады
Бяжыць спаткаць Пятрусь мяне.
І так узрушаны абадвы, —
Як птушка ў клетцы, сэрца б'е.

Ідзем абняўшыся да хаты...
Так многа дум,—а слоў няма!
Пляцем абадвы штось бяз ладу,
Абадвы рады без канца.

* * *

Пятрусь, Пятрусь,—мастак прыгожы!
Мая душа зноў тужыць па табе.
Бярозак золатам па пожні
Твае узоры восень тчэ.

Пяшчотай мяккай на паляны
Залёг сумуючы спакой,
І клён чырвона-вялічавы
Ківае моўчкі галавой.

І так мне сумна, сумна, сумна!...
Вачэй падняць нат' не магу.
І аб табе тужу ў задуме,
Пад клёнам сеўшы на лугу.

У душы цьвітуць, цьвітуць ўспаміны
Тых перажытых абразоў.
І твой куток, такі гасьцінны,
Перадамной жывы ізноў.

І не забыцца мне, я знаю,
Ні нашых дум, ні мрой, Пятрусь,
Ні нашай гутаркі аб краю
З прыгожым найменем — Беларусь!

Кастрычнік, 1932 г.
в. Таболы.

Нашая „страж" затое ўмее добра маршыраваць, рабіць уселякія абходы й забавы ў добра нагрэтай салі. Дык ня дзіва, што не хапае часу й ахвоты дагледзіць, каб дзеля ратунку ад пажару была ў запасе вада, — не-ж у напаленым памяшчэньні ня трымаюць!

Свой.

## Б. С. С. Р.

**„Польскі аўтаномны вокруг" у складзе БССР.** Праект польскіх камуністаў Домбаля і Шчырскага аб стварэньні „польскага аўтаномнага раёну ў складзе БССР"—на пагранічч з Польшчай — мае быць неўзабаве зрэалізаваны Масквой. Дагэтуль існаваў „польскі" Койданаўскі вокруг, дзе адкрыта йшла полёнізацыя беларускага насяленьня ў польскіх школах „польскага вокругу". Цяпер гэты вокруг мае быць пашыраны—і прасторам, і мерай сваей „палітычнай незалежнасьці".

**„Контр-рэвалюцыя" ў Савецк. Беларусі.** З Масквы ў апошні час выйшаў новы загад Сталіна: узмоцніць меры барацьбы з контр-рэвалюцыяй. Здавалася-б, савецкі ўрад толькі-ж і рабіў тое, што зьніштажаў контр-рэвалюцыю. Але вось, з новага дэкрэту Сталіна ясна, што контр-рэвалюцыя ня толькі жыве й ня хоча паміраць, але быццам яшчэ й мацнее і шырыцца на ўсім прасторы СССР. Паўночны Каўказ, уся Ніжняя Волга дый уся Украіна ўжо даўно абвешчаны сядзібай „крамолы", і ў гэтыя калісьці найбагацейшыя краіны, цяпер згалелыя і галодныя, скіраваны новыя „карацельныя атрады"—дзеля крывавых расправаў. У апошні час „гняздом контр-рэвалюцыі" абвешчана і Савецкая Беларусь. „Правда" піша аб вялізарным усіленьні анты-камуністычнага руху ў Беларусі. „Крамола" і тутака пусьціла глыбокія карэньні навет сярод савецкіх урадоўцаў, асабліва ў камісарыяце Зямляробства. „Навет Беларуская Акадэмія Навук, — піша „Правда",—кіраваная правадырамі беларускага нацыяналізму (!), упорна праводзіць тэорыю аб... адзінстве беларускага народу і аб... адсутнасьці кулакоў у БССР"... Беларускія акадэмікі, піша „Правда", з азьвярэлым шовінізмам выкідалі з беларускага слоўніка рэвалюцыйныя словы, прыкрываючыся фальшыва нацыянальным сьцягам дый прыкідваючыся апякунамі і абаронцамі беларускай культуры"...

Як бачым, усюды ў СССР, у-ва ўсіх яе „вольных" рэспубліках — адно й тое самае зьявішча, як сьцьвярджае хіба-ж даволі аўтарытэтна сам савецкі афіцыёз: як ні зьніштажаюць камуністы „нацыяналістычную контр-рэвалюцыю", карацей кажучы: імкненьне да будаваньня нацыянальных культур няволеных Масквой народаў, нацыянальна-вызвольны рух не зьмяншаецца, але ўсьцяж расьце... Ня трэба лепшага доказу сілы гэтага руху і бясcільля гвалтаў над ім.

**„Чыстка" ў Менскім Унівэрсытэце.** У Бел. Дзярж. Унівэрсытэце ў Менску ўлады зрабілі чарговую „чыстку". За „нац.-дэмаўства" дый за „контр-рэвалюцыю" выгнаны з складу прафэсароў Міхневіч і Цімахоўскі дый выключаны „з воўчым білетам" 12 студэнтаў.

**Купала і Колас—у прэзыдыуме саюзу савецкіх пісьменьнікаў.** „Известия" пішуць: На пленуме арган. камітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў выступіў беларускі паэта Янка Купала, якому нядаўна „Правда" закідала „беларускі шовінізм", якога называла „пяўцом беларускага кулацтва". Аднак, старшынстваваўшы на зьезьдзе тав. Кулік адзначыў заслугі Купалы перад беларускай літэратурай і ад імя прэзыдыуму і ўсіх сабраўшыхся прывітаў Купалу з прычыны нядаўна адсьвяткаванага паэтай 50-летняга юбілею. Беларускія паэты Купала і Колас уведзены ў склад прэзыдыуму.

## У Чэхаславаччыне.

**Запярэчаньне.** У газэце „Беларускі Звон" з дня 24. IX. 1932 г. за № 26 было надрукована агалошаньне выконываўшага абавязкі старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту заграніцай віцэ-старшыні інж. В. Русака з Прагі, што быццам „з прычыны распыленьня сяброў Беларускага Нацыянальнага Камітэту і яго прэзыдыуму, з прыпыненьнем імі працы, уваходзіўшай у функцыі Камітэту, названы Камітэт заграніцай страціў сваю калегіяльнасьць, аказаўся сам па сабе бязьдзейным і па гэтаму неіснуючым".

Прэзыдыум Беларускага Нацыянальнага Камітэту заграніцай гэтым заяўляе, што агалошаньне гр. Русака не адпавядае праўдзе. Грамадзянін Русак часова выконываў абавязкі старшыні за адсутнасьцю выбарнага старшыні ў Празе; на такое агалошаньне ня меў законнага упаўнаважаньня, а зрабіў яго сам па сваей волі. Беларускі Нацыянальны Камітэт заграніцай не пераставаў існаваць і існуе далей.

Прэзыдыум Камітэту просіць іншыя беларускія часопісы перадрукаваць гэтае запярэчаньне.

Старшыня Камітэту Д-р Клаўсуць,
Кіраўнік прапаганды і Сэкрэтар
Камітэту М. Вершынін.

Прага 30 студзеня 1933 г.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**У Сойме.** 11 студня, гэта значыць—у тэрмін, прадбачаны Канстытуцыяй, Сойм скончыў працу над разглядам бюджэту, прыняўшы яго блізу поўнасьцю ў лічбах урадавага праекту, з невялічкімі папраўкамі фракцыі ББ. За бюджэт галасавала толькі фракцыя ББ; уся апазыцыя галасавала проці бюджэту.

Адзначым, што прадстаўнік украінскага клюбу, матывуючы сваё галасаваньне, паказаў на тое, што з усёй сумы дзяржаўнага бюджэту лікам да паўтраця мільярда злотых на ўкраінскія мэты асыгнаваны толькі 90.000 —на ўкраінскі Навуковы Інстытут, дый то— ў Варшаве; тымчасам украінскія школы і культурна-прасьветныя ўстановы зачыняюцца, і навет Праваслаўная Царква выкарыстоўваецца з мэтай дэнацыяналізацыі ўкраінцаў. Блізу тое ж сказаў аб беларусах адзіны беларускі дэпутат Ярэміч, падчырківаючы „цяжкае палажэньне беларускага народу, пазбаўленага школы ў роднай мове".

Пасьля прыняцьця бюджэту Сойм прыступіў да разгляду двух важных урадавых законапраектаў: аб самаўрадах і аб соцыяльным забясьпечаньні працаўнікоў. Асабліва вострая дыскусія завязалася навакол першага праекту. У свой час, калі ён станецца законам, мы дамо аб ім дакладнае паняцьце нашым чытачом. Цяпер адзначым толькі дзьве яго агульныя найважнейшыя рысы. Першая—яўная і надмерная перавага ў ім „надзорчае" ўлады (урадавае), якая блізу цалком паглынае ўсялякую самастойнасьць грамадзкай выбарнай улады самаўраду, рашаючы ня толькі аб законнасьці яго дзейнасьці, але і аб яе мэтнасьці; гэтая рыса ня можа быць прызнана нармальнай у дэмакратычнай рэспубліцы дый карыснай з пункту гледжаньня разьвіцьця самадзейнасьці народу. Другая рыса, ужо цалком дадатная, гэта — праведзены праз увесь праект прынцып раўнапраўя меншасьцяў у самаўрадах. Як мы памятаем, усе папярэднія праекты, пачынаючы ад знамянітага „хіена-пястоўскага" праекту, яўна і сьведама нарушалі гэты загарантаваны Канстытуцыяй прынцып, штучна ўзмацоўваючы польскую меншасьць на „крэсах".—Трэба адзначыць яшчэ і тое, што закон уводзіць аднолькавы самаўрадавы лад на ўсім прасторы Рэчыпаспалітае, які зьмяшчае ў сабе глыбака розныя па прыродзе, складу насяленьня, яго культурна-гістарычным традыцыям і т. д. краіны; карыснасьць такой, як кажуць, бюракратычнай уніфікацыі грамадзка-самадзейнага жыцьця на мясцох—па меншай меры спрэчная.

**75.000 гэктараў на парцэляцыю.** Міністэрсава земляробства мае вызначыць у наступным годзе на парцэляцыю 75.000 гэктараў зямлі, з якіх 50.000-га — зямля прыватных уласьнікаў.

## За граніцай.

**Калгасны зьезд.** У Маскве распачаўся ўсе-саюзны зьезд калгасных дзеячоў. Сабралося 1400 дэлегатаў. Задачы зьезду — умацаваньне калгасаў, падрыхтоўка вясеньняга севу, падрахунак „дасягненьняў на калгасным фроньце" і плян далейшае яго разбудовы. Урачыстыя прамовы правадыроў перапоўнены самазахапленьнем. А побач „Правда" падлічае гэткія „дасягненьні" на „фроньце вясеньняга севу". У Адэскім вокрузе збор насеньня выкананы на 14%, у Кацярынаслаўскім—на 9%, у Армавірскім—на 2,6%. Навет ужо сабранае зерне раскрадаецца і хаваецца ў зямлю. На паўночным Каўказе 10 станіц абвешчаны варожымі калгасам дый „эвакуаваны" ў Сібір... і т. д.

**Разрухі ў Румыніі.** У Румыніі не спыняюцца ўжо больш, як два тыдні таму, распачаўшыяся крывавыя разрухі безработных, яўна кіраваныя камуністамі. Выкліканыя на помач паліцыі войскі некалькі разоў давалі залпы ў натоўп работнікаў. У выніку — пачалася забастоўка чыгуншчыкаў, на расправу з якімі ізноў выкліканы былі войскі. Улады так перапалохаліся, што абвясьцілі „ваеннае палажэньне", а кароль дык быццам мае зрачыся трону (?).

**У Нямеччыне.** Гітлер, стаўшыся канцлерам, першым чынам даў у англійскую газэту „гутарку", у якой высьветліў, што мае рабіць яго ўрад. Гітлер заявіў, што, паміж іншым, ён мае „чым хутчэй вырашыць справу звароту Нямеччыне так-званага „польскага калідору", ці—Паморра"...

„Гутарка" Гітлера выклікала страшэннае абурэньне ў польскім грамадзянстве, якое адгукнулася вострымі маніфэстацыямі пратэсту ў Сойме і сільным адпорам у экспозэ міністра замежных спраў Бэка. Гітлер, зразумеўшы, што хіба-ж „сказаў лішняе", запярэчыў „гутарцы", паслаўшы ў нямецкія газэты больш „лагодную форму" сваей прэтэнсіі на дзяржаўную тэрыторыю Польшчы.

**Канфлікт Японіі з Лігай Нацыяў.** Спэцыяльная „камісія 19", разглядаўшая справу канфлікту Японіі з Кітаем, прыняла рэзалюцыю, у якой ня прызнала „**незалежнасьці" Манчжурыі**, пацьвярдзіўшы цалком вярхоўныя правы Кітаю над акупаваным японскай арміяй краем. Японскі ўрад, разгледзіўшы рэзалюцыю камісіі Лігі, пастанавіў адкінуць усе прапазыцыі камісіі, навет прапазыцыю аб стварэньні палюбоўнае камісіі. У бліжэйшы час мае быць склікана спэцыяльная сэсія агульнага збору Лігі. Калі і яна зацьвердзіць усе прапазыцыі камісіі 19, тады канфлікт між Лігай і Японіяй стане рубам. Тымчасам Японія пачала весьці далей ваенную акцыю проці Кітаю, не абвяшчаючы фармальна вайны Кітаю і ня выходзячы зусім з складу Лігі. З свайго боку і Кітай ня хоча абвяшчаць вайны Японіі, каб у разе паражэньня (пэўнага-ж...) ня быць змушаным заплаціць кантрыбуцыю...

**Замах на Рузвэльта.** На новавыбранага Прэзыдэнта Амэрыканскіх Штатаў Рузвэльта зроблены замах. Нейкі італьянскі анархіст Зангара зрабіў у прэзыдэнта Рузвэльта 6 рэвальвэрных стрэлаў, але ня трапіў, раніўшы толькі 5 асобаў з акружэньня прэзыдэнта. Арыштаваны замаховец заявіў, што ён, як чынны анархіст, паставіў сабе мэтай жыцьця забойства ўсіх каралёў і прэзыдэнтаў на сьвеце. Суд засудзіў яго на 80 гадоў цяжкога вастрогу.

**Паляць каву замест паліва.** У Бразыліі, якая зьяўляецца найвялікшай у сьвеце прадуцэнткай кавы, плянтатары зьнішчажаюць штомесячна сотні тысяч мяшкоў кавы, каб недапусьціць далейшага спадку цаны кавы на міжнародавым рынку. Але ў апошні час зьявілася думка выкарыстаць каву, як паліва на газавым заводзе. Спроба дала добрыя рэзультаты: кава аказалася толькі на 25% менш „цеплароднай“, як каменнае вугальле. Адначасна параходныя кампаніі Бразыліі пачалі купляць каву для... дамешкі да вугальля пад машынныя катлы. Але, ня гледзячы на ўсе гэтыя меры „мобілізацыі“ запасаў кавы на тэхнічныя мэты, у Бразыліі аставаўся на 1 студня 1933 г. яшчэ вялізарны лішак кавы ў лічбе 17 мільёнаў мяшкоў, з якіх 12 мільёнаў—найлепшых гатункаў кавы. Дык „нацыянальны камітэт па культуры кавы“ пастанавіў зьнішчожыць 400 мільёнаў кававых дрэваў у краі, маючы, што быццам гэтыя дрэвы заражаны паразітамі. Узапраўднасьці прычына пастановы—баязьнь кававых абшарнікаў перад залішнім ураджаем кавы...

# Бацькі! Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!

## Паштовая скрынка.

Гр. **Дурэйка, Смаргонь.** № 3 „Р. Кр.“ высланы быў у свой час. Спраўцеся на пошце, чаму не дайшоў, і паведаміце нас. Ваш заказ на кнігі перадалі кнігару гр. Манкевічу, з якім і маеце разьлічыцца. Аб запрошаньні Вашым нашай тэатральнай трупы ў Крэва наказалі дырэктару гр. Міхалевічу. Аб дню выезду будзеце паведамлены загадзя. Дэклямацыі вершаў — у складзе так-званага „дывэртысмэнту“—рэч звычайная. Думка аб стварэньні прыкладнага разьязднога хору распрацоўваецца ў нас таксама. Але вельмі пажадана, каб хоры арганізоўваліся на мясцох свае сталыя.

Гр. **Заворскаму**, вёска Красны Луг. Прапазыцыю Вашу прымаем і залічаем Вас у лік кандыдатаў на бібліатэкара. Падайце аб сабе больш дакладныя весткі. Вы пішаце, што „беларускае насяленьне нашых вёсак, ня маючы ніякіх культурна асьветных, ні сельска-гаспадарчых арганізацыяў, ні дазволу на гэта ад улады, жыве ў поўным смутку свайго нацыянальнага ўвяданьня“, што нясьведамай сваіх правоў беларускай моладзі „здаецца, быццам чытаць беларускую кніжку ці газэту — гэта ёсьць палітыка“... Дык вось дзеля таго, каб звольніць нашае вясковае насяленьне ад гэтых ня толькі сумных, але й зусім нягодных, бо-ж нейкіх нявольніцкіх настрояў і прызвычаеньняў, і паўстала нашае Таварыства. Таварыства, як і яго гурткі на мясцох, мае вясьці сваю працу над культурным уздымам беларускага насяленьня вёскі без усялякае палітыкі, зусім адкрыта і легальна — на падставе формальна зацьверджанага ўладамі статуту, маючы абяцаны спогад з боку вышэйшых улад. Дзеля таго ніякіх перашкодаў у працы нашых мясцовых сяброў і супрацоўнікаў мясцовыя ўлады рабіць не павінны і, думаем, ня будуць.

Трэба будзе толькі трымацца ў рамках статуту і точна споўняць інструкцыі, якая побач з Статутам будзе ў свой час выслана на мейсцы.

Гр. **Вэто** і гр. **Пав. Алексе.** Ф. Манюшчыца. Карэспандэнцыі трэба пісаць больш фактычна, канкрэтна. Вы пішаце, што на вёсцы пануе „цемната восеньняй ночы“, што „вёска западае з кожным днём у пропасьць цемры, а катастрафічныя матэр'яльныя абставіны даводзяць да поўнага азьвярэньня“. Слушна кажаце, што трэба прыняць проці гэтага ўсяго меры, „каб не запазьніцца“. Проці гэтага ўсяго адна „мера“, адна рада: духоўны уздым адзінак і грамадзянства на грунтце ўласнае нацыянальнае культуры народу. У гэтым — галоўная мэта і нашага Т-ва (ТБА). Верш Пав. Алексы „Успаміны“ —слабы. Чытайце ўважна нашых лепшых песьняроў—вучыцеся ў іх, як пісаць. Але пісаць ня кідайце, калі чуеце „патрэбу сэрца“. За адрасы дзякуем — пробныя №№ вышлем.

Гр. **Вал. Анішчыку**, хут. Мондзіно. Прапазыцыю Вашую прымаем — залічаем Вас у лік кандыдатаў. Нашае Т-ва мае права закладаць на мясцох усялякія культурна-асьветныя ўстановы і прадпрыемствы: бібліатэкі, народныя дамы, тэатральныя трупы, хоры і т. д. Дайце аб сабе больш дакладныя весткі. Сьпісак цікавячых вас кніжак перадалі кнігару гр. Манкевічу—да арганізацыі бібліатэкі маеце рахавацца з ім. Верш А. Братвы—слабы, да друку не надаецца.

Ад Гр. гр. **П. Бондарэвіча**—3 зл. 50 гр., **Н. Крыўка**—1 зл. 30 гр., **Я. Кароліка**—2 зл.—на падпіску атрымана.

## Перачытаўшы газэту — перадай другому.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22